www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 3 (4255)**

9 студзеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



НАДВОР'Е

## Зіма прыйшла... але без снегу

Паводле прагнозаў сіноптыкаў, на гэтым тыдні ў Беларусі чакаецца марознае надвор'е. Беларусы нарэшце пабачаць сонца. Аднак ападкаў не чакаецца.

Сёння ўначы тэмпература паветра будзе -3…-4ºС. У сераду ўдзень – -2...+3ºС.

У чацвер 11 студзеня будзе пераважна без ападкаў. Уначы слупок тэрмометра пакажа ад -2ºС па паўднёвым захадзе да -9ºС па ўсходзе краіны. Удзень сіноптыкі прагназуюць -3…+2ºС.

У пятніцу 12 студзеня ападкаў не чакаецца. Уначы будзе -6…-7, удзень чакаецца 0…-5ºС.



АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Суд, да не тот

Все, видимо, слышали: на днях Конституционный суд Молдовы временно отстранил Игоря Додона от исполнения обязанностей президента страны. Додон отказался подписывать закон о борьбе с российской пропагандой, хотя парламент подтвердил свое решение дважды, и суд пришел к выводу, что *«президент сознательно отказался от выполнения своих конституционных обязанностей»*. В итоге полномочия главы государства приостановлены для дальнейшего разбирательства.

Кто прав в этой ситуации, кто не прав, для нас в данном случае не суть. Для нас важно, что в Молдове Конституционный суд может и вправе принимать подобные решения и выступать арбитром в спорах между ветвями власти.

В Кении Конституционный суд отменил результаты президентских выборов. Конституционный суд Гватемалы своим решением отменил смертную казнь. Конституционный суд Грузии отменил приговоры о наказании за повторное употребление марихуаны. Буквально в декабре 2017 года Конституционный суд России, рассмотрев обращение жительницы Владимирской области Татьяны Овечкиной, запретил лишать статуса чернобыльца детей, если их матери покинули зону отселения не сразу после взрыва, а позже.

Это новости только последних месяцев. Во всем мире Конституционные суды могут, вправе и даже обязаны принимать решения, направленные на восстановление действия Конституции. Решения, обязательные для всех – от президента до начальника тюрьмы или районного собеса. И только в Беларуси Конституционный суд пишет учебники и статьи по теории государства и права, по конституционному праву, по различным отраслям права, штампует мнения и заключения, но реально защитить Конституцию, конституционные права граждан он не может.

Если бы в стране существовали больницы, в которых не лечат, а только пишут эпикризы и цитируют страницы учебников... Если бы прокуратура на жалобы и обращения реагировала исключительно ссылками на мировую практику и приводила выдержки из законов… Если бы в кафе, столовых и ресторанах нам показывали меню и рецепты блюд, но не готовили сами блюда… Мы бы что сказали?

А вот наш Конституционный суд с 1996 года работает именно так. Сидят такие важные в центре Минска, пишут правильные учебники, умные комментарии, хитрые заключения. И не более.

Я вообще не могу представить, как у тех, кто представляет Конституционный суд, хватает совести говорить о какой-то своей важной миссии в Беларуси, если прямо сейчас, при них, при их молчаливом согласии в судах дают людям штрафы и сутки за то, что человек шел по улице и выкрикивал лозунг: «Жыве Беларусь!».

И суд молчит.

Какой извращенной логикой должен обладать судейский ум, чтобы видеть соблюдение Конституции и законности в том, что человек вышел на одиночный пикет и был обвинен в нарушении закона о массовых мероприятиях?

Массовых! А он был один... Получается, чтобы подвести под «массовость», руки, ноги, голову надо считать по отдельности.

И суд молчит.

Наконец, как они смотрят в глаза нашим гражданкам Овечкиным, когда одну государство задним числом лишило чернобыльских льгот, другую – права на пенсию, третью выселило из дома в центре в квартиру на окраине, пятую отказывается класть в больницу, так как старая уже, пожила?.. Государство раз за разом бессовестно наступает на права людей, ссылаясь на государственные нужды и интересы. А Конституционный суд молчит. Что, у него нет ни полномочий, ни желания во что-то вмешаться?

Негласно все это объясняется тем, что без какой-нибудь старушки Овечкиной или даже молодицы Овечкиной государство проживет. А что важно – так это монолит власти, в котором Конституционный суд, закопавшийся в горах бумаг, главное звено. Так как из-под этих гор он никогда не выползет, действовать не сможет, голос не подаст.

Хотя на самом деле очень важно, чтобы Конституционный суд мог подать голос. Временами это ни много ни мало, а позволяет сохранить государство. Возьмем Украину. Белорусские власти очень внимательно изучают опыт этой страны в противостоянии с Россией и оперативно вносят изменения в законы, вот только Конституционного суда это почему-то не коснулось. Но я напомню, как удалось сохранить и спасти Украину от оккупации.

Президент Украины Виктор Янукович сбежал и написал письмо Владимиру Путину с просьбой об использовании Вооруженных сил Российской Федерации *«для восстановления законности, мира, правопорядка, стабильности и защиты населения Украины»*. Конституция Украины (как, кстати, и наша) вообще не предусматривала ситуаций, когда глава государства пропадает, не выходит на связь, сбегает из страны и просит кого-то вернуть его назад *«на штыках»*. Как и на кого возложить обязанности главы государства, кому должна перейти власть, кто становится главнокомандующим и принимает всю полноту ответственности? Этот вопрос решал Конституционный суд Украины, назначив руководителя парламента Александра Турчинова исполняющим обязанности президента.

Именно Конституционный суд определил, кто в Украине будет отдавать приказы, обязательные для всех. Но главное даже не это. У украинского суда были полномочия принять такое решение. В результате Россия не посмела начать полномасштабную военную операцию, так как обращение Януковича юридически – для международного права, для возможного Международного трибунала – оказалось не обращением президента, а обращением частного лица.

В нашей стране нет, просто нет органа, обладающего полномочиями принять подобное решение. И очень важно, чтобы он был. Очень важно как для восстановления справедливости в отношении какой-нибудь гражданки Овечкиной, так и для принятия решений, от которых зависит судьба Беларуси.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# ПАГУЛЯЛІ – І ЗА РАБОТУ!

*Здаецца, апошнія два тыдні былі суцэльнымі святамі. То ўсе разам з каталікамі адзначалі Нараджэнне Хрыстова, то Новы год сустракалі, то ў праваслаўных надышло Вялікае набажэнства... А прыплюсуем яшчэ выхадныя! Пара, шаноўныя, за працу брацца. Учора журналіст "Народнай Волі" пабываў на прахадных шэрагу сталічных заводаў і фабрык, на будоўлях і пацікавіўся, як распачаўся новы год у рабочых...*



Дзмітрый КРЭЗО,
мантажнік-дарожнік трубаправодаў 4-га разраду будаўнічага ўпраўлення №71:

– Мы займаемся добраўпарадкаваннем тэрыторый, вонкавымі сеткамі… Працуем у адну змену – з 8.00 да 17.00. Нават калі ёсць вытворчая неабходнасць, застаёмся на некалькі гадзін дадаткова працаваць, і ў такім выпадку ідзе двайная аплата. Хаця, шчыра кажучы, раней усялякае здаралася. На працу магло паўплываць і надвор'е, і адсутнасць матэрыялаў… Праўда, у гэтым годзе з такімі фактамі пакуль не сутыкаліся. Ды і цёплае студзеньскае надвор'е для будаўнікоў – проста казачны падарунак.

**– Што вас сёння найперш хвалюе?**

– Заробкі істотна зменшыліся ў параўнанні з мінулымі гадамі. У 2013–2014-м можна было і тысячу долараў атрымаць у месяц, а зараз асабіста ў мяне – у сярэднім каля 600 рублёў (прыкладна 300 долараў). Праўда, заробкі могуць вагацца – усё залежыць ад аб'екта будаўніцтва, ад аб'ёмаў працы. Хаця хочацца, натуральна, верыць, што ў гэтым годзе заробак узрасце.

**– З кадрамі праблем няма?**

– Рабочых хапае, бо многія прыязджаюць з іншых рэгіёнаў краіны, дзе не могуць знайсці працу. А ў нас іх не толькі працай забяспечваюць, але і інтэрнат даюць.

Канстанцін (прозвішча папрасіў не называць),
слесар механазборачных работ Мінскага трактарнага завода:

– З 29 снежня па 8 студзеня мы не працавалі. Гэтыя дні перанесены, будзем адпрацоўваць па суботах на працягу года. А чаму былі ў вымушаным адпачынку? Справа ў тым, што ў Расіі ў гэты час таксама святы, а ў нас асноўныя заказы ідуць менавіта туды. Таму сэнсу працаваць на склад не было. Дарэчы, такая ж сітуацыя, здаецца, і на Мінскім аўтамабільным заводзе, і на некаторых іншых буйных прадпрыемствах, якія "завязаны" на Расію.

**– Але ў першы дзень пасля "калядных канікул" работы хапала?**

– Безумоўна, хаця самі разумееце, што адразу пасля перапынку рабіць нейкія высновы рана. Працуем мы ў адну змену, на такі графік ужо даўно перайшлі – некалькі год таму.

**– А ці задавальняюць заробкі?**

– Напрыканцы мінулага года атрымліваў прыкладна 700 рублёў, але ведаю, што са снежня нам паднялі заробкі за кошт прэмій. Праўда, яшчэ не ведаю, колькі рэальна атрымаю "на рукі". Быццам бы тарыфную стаўку на 12 працэнтаў паднялі. Зрэшты, людзі ў любым выпадку не звальняюцца. Трымаюцца за свае месцы.




Алег СІДАРКЕВІЧ,
зубарэзчык 6-га разраду ААТ "Мінскі завод Кастрычніцкай рэвалюцыі":

– Шчыра кажучы, мы толькі другі дзень выйшлі на працу пасля Новага года. Не было электрычнасці ў нашым цэху, вось і не працавалі. Увогуле ж работа ў нас у адну першую змену.

**– Абяцаны кіраўніком краіны заробак у тысячу рублёў ужо маеце?**

– Пакуль яшчэ не, хаця, скажам так, на падыходзе. А зараз выходзіць прыкладна 700–800 рублёў у месяц. Зрэшты, калектыў у нас дружны, ніхто не скардзіцца. А якія чаканні? У мяне трое дзяцей, таму хацелася б, безумоўна, прыносіць у сям'ю больш грошай.

Дзмітрый,
механік будаўнічага ўпраўлення №202 ААТ "МАПІД":

– Працуем у адну змену, у сярэднім рабочыя атрымліваюць 700–800 рублёў у месяц. Хаця асабіста ў мяне і да 900 даходзіла. Усё залежыць ад таго, як дамы здаюцца.

**– На што разлічваеце ў гэтым годзе?**

– Будзем спадзявацца, што на лічбу ў 500 долараў выйсці атрымаецца. Але ж у любым выпадку трэба працаваць, а не сядзець дома. Хаця людзі не асабліва імкнуцца працаваць на будоўлі. Асабліва зімой. Здаецца, хапае беспрацоўных, а ў нас аб'ява, што патрабуюцца ва ўпраўленне электраманцёры і слесары, паўгода вісіць, і ніхто асабліва не адгукаецца.



Віктар КУНТЫШ,
рабочы цэха тэрмічнай апрацоўкі Мінскага падшыпнікавага завода:

– Пайшоў на пенсію па "гарачым графіку" ў 50 гадоў, але па-ранейшаму працую на прадпрыемстве. Моладзь асабліва не імкнецца на складаную працу. Прыходзяць іншагароднія, каб атрымаць інтэрнат, а сталічных маладых людзей вельмі і вельмі мала. Ды і заробак не асабліва вялікі – я ў мінулым годзе атрымліваў прыкладна 500 рублёў у месяц.

**– І праўда няшмат для сталічнага прадпрыемства…**

– Затое на Новы год усім работнікам далі па 80 рублёў у якасці прэміі. Заробак адназначна трэба павышаць, а то ён стаіць на месцы практычна год. Можа, толькі на 7 працэнтаў за 2017 год вырас. Цэны на паслугі і ў магазінах растуць, "камуналка" даражэе, трэба і людзям нешта падкінуць.

**– Завод працуе стабільна?**

– Так, на поўную моц у тры змены. Печкі ў нас не спыняюцца, таму цэх працуе кругласутачна. Зараз рэканструкцыя ідзе, змяняем у цэху абсталяванне.

Аляксей,
рабочы ААТ "Мінск Крышталь":

– Даўно шукаў работу, і з мая ўладкаваўся на "Крышталь". Напачатку атрымліваў 850–900 рублёў, але першыя тры месяцы была меншая прэмія за інтэнсіўнасць. А пасля выпрабавальнага тэрміну заробак узрос – апошні раз я атрымаў 1100 рублёў.

*Паводле слоў нашага суразмоўцы, ніякіх праблем на прадпрыемстве не адчуваецца, зараз у рамонтным цэху праводзіцца планавы рамонт абсталявання.*

– Працы хапае, і нават у выхадныя просяць выйсці на работу. Ці вырастуць заробкі ў гэтым годзе – не вядома, але і скардзіцца не даводзіцца. У мяне ў цэху, напрыклад, усе вакансіі заняты. Ды і сваё месца не хачу згубіць, а таму на ўсялякі выпадак не буду вам называць сваё прозвішча…

**Апытваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗДАРЭННЕ



Работнікі службы эвакуацыі:

## 8 студзеня вадзіцель можа лічыць сваім другім днём нараджэння

Гэтая фатаграфія з месца аварыі, якая здарылася ўчора раніцай на 65-м кіламетры трасы Мінск–Слуцк.

– *Кіроўцу пашанцавала, у яго цяпер 8 студзеня – другі дзень нараджэння*, – расказалі нам работнікі эвакуацыйнай службы. – *Са слоў вадзіцеля, лось рэзка выскачыў на дарогу, зрэагаваць было нерэальна. На жаль, пры такіх аварыях жывёла, як правіла, заўсёды гіне. Для людзей таксама нярэдка такое здарэнне заканчваецца сур'ёзнымі траўмамі і нават смерцю. Вы толькі ўявіце: на хуткасці атрымаць удар тушы масай 400–500 кілаграмаў! Але кіроўца Volkswagen нарадзіўся ў кашулі. Лось уляцеў у машыну менавіта з боку кіроўцы, дзвярное шкло ўшчэнт разбіта, лабавое – трэснула, капот і дах моцна змяты. А ў вадзіцеля – нязначныя траўмы. Магчыма, дапамагло і тое, што сучасны Volkswagen – машына бяспечная. А на гэтым аўто прабег усяго 32 тысячы кіламетраў.*

Супрацоўнікі службы кажуць, што падобныя аварыі – не рэдкасць на беларускіх дарогах. А на трасе Мінск–Слуцк–Мікашэвічы жывёлы часта выбягаюць на дарогу, не дапамагаюць нават агароджы, якія пастаўлены на новым участку: ад вёскі Гацак да Слуцка. А хуткасці вялікія… Таму за рулём трэба заўсёды быць вельмі ўважлівымі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

Алена ГАЛАЎКО,
былая загадчыца дзіцячага садка, адкуль збеглі дзеці:

# «Мяне звольнілі па дэкрэце...»

Дзікая гісторыя з двума трохгадовымі і чатырохгадовым хлопчыкамі, якія ўвечары 3 студзеня збеглі са светлагорскага дзіцячага садка №21 і з'ехалі на дызелі ў Жлобін (пра гэта ў мінулым нумары пісала «НВ»), скончылася добра не для ўсіх. Дзякуй Богу, дзеці жывыя і здаровыя і па-ранейшаму ходзяць у гэты ж дзіцячы садок, бацькі малых акрыялі ад стрэсу, а вось педагогі пазбавіліся работы. Услед за выхавальніцай групы **Аленай Рудабелец** па артыкуле была звольнена і загадчыца дзіцячага садка **Алена Галаўко.**

– *Мне патэлефанавалі і сказалі, што я звольнена адпаведна з загадам міністра,* – расказвае Алена Аляксандраўна. – *Звольнена, як і выхавальніца Алена Валер'еўна, па дэкрэце №15. У пятніцу быў мой апошні працоўны дзень, сёння, 8 студзеня, паеду ў аддзел адукацыі за дакументамі.*

Голас Алены Галаўко дрыжыць, яна прызнаецца, што ўсе гэтыя дні сядзіць на заспакойлівых прэпаратах. Калегі, блізкія спачуваюць, падтрымліваюць. Недарэчная, жудасная гісторыя паставіла тлусты крыж на яе кар'еры.

– *Звальненне – усё гэта, канешне, не важна. Галоўнае, што жывыя дзеці, з імі нічога не здарылася. Прыкра толькі, што вось так скончылася мая кар'ера... Я ўсё жыццё працавала ў дзіцячым садку. Вельмі люблю сваю работу. У нас склаўся выдатны, згуртаваны калектыў, педагогі ўсе дасведчаныя, з вялікім стажам працы. Мой стаж у дашкольнай адукацыі больш за 30 гадоў, я скончыла педвучылішча, потым Магілёўскі педінстытут. Нядаўна выйшла на пенсію, але працягвала займацца любімай справай. Напярэдадні Новага года, 31 снежня, са мной быў заключаны кантракт на год, а потым вось гэтае надзвычайнае здарэнне… Вядома, столькі разоў у галаве ўсё пракручвала... Дзікі збег абставін. Хтосьці з бацькоў не зачыніў уваходную браму. Клямка высока знаходзіцца, калі была б зачынена, дзеці ніколі б да яе не дацягнуліся. А гэта адзіны выхад, плот у нас у ідэальным стане, ніхто нідзе не пралезе. Але бацькоў, бабуль ходзіць шмат – у садку 214 дзяцей. Час быў пасля 17, памочніца выхавальніцы ўжо сышла, пакуль Алена Валер'еўна займалася іншымі, вырашала, ісці на вуліцу ці не, трое хлапчукоў і выскачылі за брамку. Яна заўважыла, што дзяцей няма, папрасіла калег паглядзець за астатнімі і пабегла шукаць хлопцаў. Спачатку на тэрыторыі, думала, што да ёлкі пайшлі. Ніхто нават падумаць не мог, што такія малыя дзеці з'ехалі на цягніку!*








**Маленькія ўцекачы Анціп, Фёдар і Дзіма.**

Згодна з пунктам 6.2 дэкрэта №15, Алена Галаўко звольнена за «*аднаразовае грубае парушэнне работнікам сваіх працоўных абавязкаў*». Зараз на працягу пяці гадоў яна не мае права займаць кіруючыя пасады. Праўда, педагог кажа, што пасля гэтага інцыдэнту наўрад ці наогул вернецца ў дзіцячы садок: «*Гэта такі стрэс, што я да гэтага часу не магу прыйсці ў сябе. Вырашыла, што ў дашкольную адукацыю ніколі не вярнуся*».

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

